

*А. Р. ДЗЯНІСАВА*

# КРЫНІЦЫ ПА ГІСТОРЫІ ПРАВАСЛАЎНЫХ МАНАСТЫРОЎ ТУРАВА-ПІНСКАЙ ЕПАРХІІ Ў XI–XVII стст.

Рассматриваются письменные источники по истории православных монастырей Турово-Пинской епархии в XI–XVII вв., систематизированные в соответствии с хронологическими, региональными и проблемными принципами. Согласно принятой в источниковедении классификации автор разделяет источники на документальные и нарративные (повествовательные). Первые объединяют законодательные, актовые, делопроизводственные, статистические документы. Вторые включают летописи и хроники, литературные и публицистические произведения, мемуарную литературу, эпистолярные источники. Отмечается, что самыми главными проблемами в работе с документами по монастырской истории являются их сохранность и неравномерное распределение во времени.

In article written sources on history of the orthodox monasteries of the Turau-Pinsk eparchy during the 11th–17th centuries systematized according to chronological, regional and problem principles are considered. It agrees with the classification accepted in the source study the author divides sources into documentary and narrative. The first unite legislative, official, office work, statistical documents. The second include chronicles, literary and publicistic works, memoirs literature, epistolary sources. In article it is noted that the most important problems in work with documents on monastic history are their safety and uneven distribution in time.

Па гісторыі праваслаўнай царквы і манастыроў Турава-Пінскай епархіі захаваліся разнастайныя пісьмовыя крыніцы. Яны падзяляюцца на **дакументальныя і наратыўныя (апавядальныя)**. У адпаведнасці з прынятай у крыніцазнаўстве класіфікацыяй першыя аб'ядноўваюць заканадаўчыя, актавыя, справаводныя, статыстычныя дакументы. Другія ўключаюць летапісы і хронікі, літаратурныя і публіцыстычныя творы, мемуарную літаратуру, эпісталярныя крыніцы.

**Дакументальныя крыніцы.** Да гэтага комплексу належаць *заканадаўчыя крыніцы* – нарматыўныя дакументы, якія санкцыянаваны вярхоўнай уладай і валодаюць вышэйшай юрыдычнай сілай у межах пэўнага дзяржаўнага ўтварэння. Вызначыць прававы статус праваслаўнай царквы і яе вернікаў даюць магчымасць агульназемскія прывілеі канца XIV–XVI стст.; Статуты Вялікага Княства Літоўскага 1529, 1566, 1588 гг.; пастановы (канстытуцыі) соймаў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай XVI–XVII стст.[1]

Асобны від дакументальных крыніц складаюць *гістарычныя акты* – дакументы, у якіх у форме вызначаных юрыдычных нормаў замацаваны эканамічныя і палітычныя дагаворы паміж дзяржавамі, дзяржавай і царквой, прыватнымі асобамі і г. д. Актавыя матэрыялы, якія тычацца праваслаўнай царквы і яе ўстаноў, падзяляюцца на *публічна-прававыя* (ініцыяваныя вярхоўнай уладай) і *прыватна-прававыя* (выдадзеныя прыватнымі асобамі). Да першай катэгорыі адносяцца *царкоўныя статуты* («уставы»). Вядомы статут князя Уладзіміра Святаславіча (980–1015) – найстаражытнейшы акт, які вызначаў прававое становішча царквы[2]. Статут князя Яраслава (1019–1054) акрэсліваў юрысдыкцыю праваслаўнай царквы на ўсходнеславянскіх землях. Адзін са спісаў гэтага помніка – Скрутак Яраслава («Свиток Ярославль») быў апублікаваны ў 1846 г.[3]

*Публічна-прававыя акты* ўключаюць даравальныя і пацвярджальныя граматы вялікіх князёў літоўскіх царкве і духавенству на землі, нерухомую маёмасць, імунітэтныя правы, духоўныя пасады («хлябы духоўныя»). Прывілеі 1499, 1511 гг. зацвярджалі Скрутак Яраслава і вызначалі асноўныя правы царквы і яе ўзаемаадносіны са свецкай уладай[4]. Сярод актаў, якія тычыліся манастыроў, можна выдзеліць наступныя: граматы аб заснаванні манастыроў, аб прызначэнні на пасады архімандрыта, ігумена ці ігуменні, аб захаванні і наданні маёмасці[5].

*Прыватна-прававыя акты і граматы* выдаваліся заснавальнікамі манастыроў або асобамі, якія апекавалі той ці іншы манастыр. Гэта фундушавыя дакументы, маёмасныя акты, граматы, што зацвярджалі на пасадзе настаяцеляў і вызначалі правілы манастырскіх статутаў[6].

Актавыя матэрыялы ўключаюць *дакументы царкоўных інстанцый.* Яны выходзілі ад імя патрыярхаў, мітрапалітаў, епіскапаў. У гэтую групу ўваходзяць акты царкоўных сабораў, якія рэгламентавалі living рознабаковую дзейнасць Кіеўскай мітраполіі[7]. Саборныя рашэнні вызначалі статус манастыроў, правілы манастырскай дысцыпліны, маёмасныя і падатковыя пытанні.

Царкоўныя адносіны рэгуляваліся Кормчымі кнігамі – зборнікамі царкоўных і свецкіх законаў. Кормчыя кнігі паходзяць ад аналагічных візантыйскіх зборнікаў – Номаканонаў, якія аб'ядноўвалі царкоўныя правілы, пастановы Усяленскіх і Памесных сабораў, імператарскія пастановы адносна царквы, вытрымкі з заканадаўчых зборнікаў. Кормчыя кнігі трапляюць на Русь у XI ст. У канцы XIII ст. яны дапаўняюцца амаль 40 новымі артыкуламі, сярод якіх манаскія статуты і правілы, аскетычна-містычныя, гістарычныя і біяграфічныя творы. Найбольш распаўсюджанымі на тэрыторыі Беларусі былі спісы Сербскай і Рускай рэдакцыі Кормчых[8].

Вызначыць арганізацыю манаскага жыцця дапамагаюць манастырскія статуты (тыпіконы). Яны рэгламентавалі штодзённую дзейнасць, побыт манахаў, узаемаадносіны паміж настаяцелем і браціяй, стасункі са свецкім грамадствам. Найбольш старажытным тыпіконам, згодна з якім з XI ст. наладжвалася жыццядзейнасць Кіева-Пячэрскага манастыра, лічыцца статут Студзійскага манастыра[9]. Функцыі тыпіконаў выконвалі статутныя і духоўныя граматы, запаветы, павучанні патрыярхаў, мітрапалітаў, епіскапаў і ігуменаў. З'яўленне ўласных манастырскіх статутаў адносяць да больш позняга часу. Інвентарныя вопісы манастыроў Турава-Пінскай епархіі канца XV–XVII стст. называюць «Уставы» сярод іншых кніг[10]. Узорам манастырскага статута, які захаваўся да нашых дзён, служыць тыпікон Супрасльскага Дабравешчанскага манастыра, зацверджаны мітрапалітам Іосіфам у 1510 г.[11]

*Дакументы бягучага справаводства* – гістарычныя крыніцы, якія ўзнікаюць у выніку дзейнасці грамадскіх, дзяржаўных і царкоўных інстытутаў. Матэрыялы Метрыкі Вялікага Княства Літоўскага ўключаюць копіі даравальных, пацвярджальных грамат вялікіх князёў літоўскіх і каралёў польскіх аб недатыкальнасці правоў царквы, аб прызначэннях на пасады, аб маёмасці і льготах духоўным установам[12]. У актавых кнігах судовых інстанцый фіксаваліся розныя па характары дакументы: звароты грамадзян, данясенні службовых асоб, маёмасна-прававыя акты, граматы вялікіх князёў, пастановы соймаў і рашэнні судоў[13].

Частка крыніц азначанага віду – гэта данясенні, рапарты, ведамасці XIX ст. Так, у 1800 г. на аснове данясенняў настаяцеляў у Мінскую духоўную кансісторыю былі складзены «Исторические описания…» манастыроў Мінскай і Літоўскай епархій, дзе распавядалася аб часе заснавання, фундатарах, будынках, маёмасці духоўных установ[14]. Намеснік Ісаія ў рапарце аб Свята-Троіцкім манастыры ў Слуцку пісаў: «Фундуши от князей слуцких Олельков и Радивиллов на утверждение сего монастыря и имение онаго данные доказуют, что оный в 1518 г. существовал»[15].

Даныя аб старажытнай гісторыі манастыроў даволі скупыя. Настаяцелі растлумачвалі гэты факт тым, што манастырскія архівы ці значна пашкоджаны, ці, наогул, не захаваліся. Ігумення Венядзікта, настаяцельніца Ільінскага манастыра ў Слуцку, адзначала: «Кто сего монастыря фундатор и с котораго точно времени первоначальное его основание за неимением древних фундушов неизвестно»[16].

Гаспадарчая дзейнасць і маёмаснае становішча праваслаўнай царквы і манастыроў прадстаўлены *матэрыяламі статыстычнага характару* – крыніцамі, даныя якіх магчыма апрацаваць пры дапамозе статыстычнага аналізу. Да гэтага віду належаць кнігі рэвізій, пісцовыя кнігі, інвентары, люстрацыі, вопісы, сумарыюшы. Стан гаспадаркі вялікага князя вызначаўся ў «Ревизии пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском…», складзенай у 1559 г. старастам Р. Б. Валовічам[17]. Да тэксту «Ревизии» былі далучаны прывілеі і граматы, дадзеныя шляхце і духавенству Пінскага павета. Сярод іх шэраг даравальных грамат і запісаў прызначаўся Лешчанскаму манастыру ў Пінску, значныя ахвяраванні на ўтрыманне якога былі зроблены ад мужа і жонкі Яраславічаў. Найбольш старажытны запіс датуецца 1503 г.

Даныя аб маёмасным становішчы праваслаўнага духавенства размешчаны ў пісцовых кнігах Пінскага княства і староства, складзеных старастамі Л. Война і С. Хвальчэўскім у XVI ст.[18] У кнігах зафіксаваны аграрныя мерапрыемствы, праведзеныя каралевай Бонай Сфорцай і яе сынам Жыгімонтам Аўгустам у сваіх уладаннях. Землі пінскага праваслаўнага духавенства, у тым ліку Лешчанскага і Варварынскага манастыроў, трапілі пад аграрную рэформу. Пісцовыя кнігі пералічвалі аперацыі па абмену зямлі, вызначалі зямельную ўласнасць манастырскіх настаяцеляў і мяшчан.

Дакладныя звесткі аб маёмасці манастыроў утрымліваюць інвентары. Асноўнай мэтай інвентарных апісанняў быў улік уласнасці, расходаў і прыбыткаў, а таксама вызначэнне рэнты, якая збіра-

лася з залежнага насельніцтва. Інвентары маглі складацца з нагоды змены манастырскага настаяцеля пры патрабаванні апекуна. Так, гаспадарчы вопіс Лешчанскага манастыра 1588 г. апісвае манастырскі комплекс, храмы і іх убранне, жылыя і гаспадарчыя будынкі, пералічвае лешчанскія ўгоддзі і павіннасці, якія выконвалі сяляне на карысць духоўнай установы[19].

Да дакументальных крыніц адносяцца царкоўныя Сінодзікі – спісы асоб для памінання «за спачын душы». Сінодзікі таксама называліся Памяннікамі (запісы памерлых дзеля памяці) і Суботнікамі (памінанне «за спачын душы» ў пэўныя дні, часцей па суботах). У гэтыя спісы ўносіліся імёны вышэйшага духавенства, манастырскіх настаяцеляў і манахаў, роды вялікіх князёў, магнатаў і шляхты[20]. Часам імёны ўпісваліся ў Памяннікі на працягу стагоддзяў.

**Наратыўныя крыніцы.** У комплексе наратыўных крыніц цікавасць для правядзення дадзенага даследавання прадстаўляюць *летапісы* ўсходнеславянскага паходжання. Сярод іх можна назваць «Аповесць мінулых гадоў», «Ніканаўскі летапіс», «Іпацьеўскі летапіс», «Хроніку Быхаўца»[21]. Летапісы распавядаюць аб хрышчэнні зямель Старажытнай Русі, аб фарміраванні царкоўнай арганізацыі, аб манаскім жыцці. У іх утрымліваюцца звесткі аб уладкаванні і будаўніцтве манастыроў, удакладняецца час настаяцельства. Гісторыя манастыроў Турава-Пінскай епархіі ў летапісных спісах прадстаўлена вельмі скупа. Традыцыйна манастыры ўзгадваюцца ў сувязі з дзейнасцю той ці іншай асобы ў кантэксце палітычных падзей.

Летапісныя звесткі дапаўняюцца сведчаннямі *літаратурных і публіцыстычных твораў*. Сярод іх сачыненні *агіяграфічнай літаратуры* (жыція святых). Амаль усе вядомыя жыція прысвечаны дзеячам, якія адыгрывалі важную ролю ў айчыннай гісторыі. Гэта былі не толькі князі, мітрапаліты і епіскапы, але і звычайныя манахі. У адрозненне ад летапісаў у жыціях няма храналагічных звестак, толькі супастаўленне з іншымі крыніцамі дазваляе ўдакладніць час тых ці іншых падзей. Агіяграфічныя сачыненні ўтрымліваюць факты па гісторыі манастыроў Турава-Пінскай епархіі. З «Слова пра манаха Марціна» можна даведацца аб Барыса-Глебскім манастыры ў Тураве, аб імёнах тураўскіх епіскапаў[22]. «Жыціе Кірылы Тураўскага» паведамляе аб манаскім жыцці, грамадскай і творчай дзейнасці святіцеля[23].

Асобае месца ў гэтай падгрупе крыніц займае «Кіева-Пячэрскі пацярык», які расказвае аб ранняй гісторыі Кіева-Пячэрскага манастыра і яго першых падзвіжніках[24]. «Пацярык» пачаў фарміравацца з першай трэці XIII ст. У яго аснову была пакладзена перапіска епіскапа Уладзімірскага і Суздальскага Сімона з пячэрскім інакам Палікарпам. Гэты твор налічвае некалькі дзясяткаў апавяданняў аб пячэрскіх падзвіжніках і апісвае падзеі, якія адбываліся ў сярэдзіне XI–XII стст. У ім адлюстраваны паступовы рост манастыра, яго ўнутранае жыццё, віды падзвіжніцтва, адносіны са свецкім грамадствам. У «Кіева-Пячэрскім пацерыку» рэдакцыі Іосіфа Трызны (1647–1655) прыводзіцца статутная грамата Тураўскай епархіі, дзе вызначаны час узнікнення, тэрыторыя і сродкі забеспячэння гэтай царкоўнай адзінкі[25].

Скласці цэласную карціну рэлігійнага жыцця на беларускіх землях дапамагае творчая спадчына царкоўных і грамадскіх дзеячаў. «Сказание о черноризском чине» Кірылы Тураўскага дазваляе вызначыць не толькі духоўны светапогляд аўтара, але і нормы манаскага жыцця[26]. Гэты твор асветніка быў уключаны ў склад Кормчых кніг у канцы XIII ст.

У XVII ст. з’яўляецца шэраг гісторыка-палітычных і публіцыстычных твораў, якія распавядаюць аб становішчы праваслаўнай царквы. Сярод іх «Дыярыуш» Афанасія Філіповіча. Твор быў складзены ў форме ўспамінаў. На прыкладзе свайго жыцця аўтар паведамляе аб прыгнёце праваслаўнай царквы, крытыкуе ўвядзенне ўніі і дзеянні каталіцкага духавенства[27]. У «Дыярыушы» прыводзяцца звесткі аб узнікненні і дзейнасці Купяціцкага Увядзенскага манастыра.

Віленскім Святадухаўскім брацтвам было выдадзена сачыненне ў абарону правоў праваслаўнай царквы пад назвай «Сінопсіс»[28]. Выданне, прымеркаванае да сойма 1632 г., апісвала царкоўна-рэлігійныя і палітычныя падзеі ў старажытнарускай дзяржаве і Вялікім Княстве Літоўскім з міфічных часоў да 1632 г. У тым жа годзе брацтва надрукавала Дадатак да «Сінопсіса» з матэрыяламі аб царкоўнай уніі і становішчы праваслаўнай царквы з 1596 да 1632 г.[29] Такой жа накіраванасці палемічны трактат «Літас, або Камень», аўтарам якога лічыцца мітрапаліт Пётр Магіла[30].

Важную катэгорыю гісторыка-літаратурных помнікаў складаюць *эпісталярныя крыніцы* – пісьмы, запіскі, пасланні і г. д. Яны дапаўняюць дакументальныя матэрыялы і напаўняюць гістарычныя падзеі і факты эмоцыямі і меркаваннямі сучаснікаў. З ліста пінскага ўніяцкага епіскапа Гедыёна Гарбацкага да князя Радзівіла, у якім распавядаецца аб старажытнасці Турава-Пінскай епархіі, можна даведацца аб тым, што Лешчанскі манастыр быў заснаваны князем Уладзімірам Святаславічам[31]. Кіеўскі ваявода князь Канстанцін Астрожскі ў пасланні да епіскапа Іпація Пацея выказаў сваё разуменне праблем царквы і вызначыў цэлы спіс мерапрыемстваў, накіраваных на яе падтрымку[32].

Пры распрацоўцы праблемы былі выкарыстаны малавядомыя, а таксама новыя крыніцы. Сярод іх дакументы XVI–XVIII стст. з архіва слуцкага Свята-Троіцкага манастыра (так званы Трайчанскі архіў), якія захоўваюцца ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі ў Мінску. Да нядаўняга часу яны былі памылкова размешчаны сярод кніжных фондаў, не мелі сталай сігнатуры і таму не выкарыстоўваліся даследчыкамі. У Трайчанскім архіве маюцца разнастайныя дакументы, якія тычацца слуцкіх Свята-Троіцкага і Ільінскага манастыроў, Праабражэнскай і Успенскай цэркваў і брацтваў пры іх, грозаўскага Іаана-Багаслоўскага манастыра, дакументы князёў Алелькаў, Радзівілаў і інш.

Крыніцы па гісторыі праваслаўных манастыроў былі выяўлены ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску, Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Украіны ў Львове, аддзеле рукапісаў Львоўскай навуковай бібліятэкі імя В. Стэфаніка НАН Украіны, Літоўскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Вільнюсе, аддзелах рукапісаў бібліятэк Вільнюскага ўніверсітэта і НАН Літоўскай Рэспублікі. У даследаванні праблемы выкарыстаны таксама крыніцы, апублікаваныя ў зборніках дакументаў і матэрыялаў, выдадзеных у XIX–XX стст. у Беларусі, Расіі, Літве. Важнейшымі з іх з'яўляюцца «Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов», «Акты, относящиеся к истории Западной России», «Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России», «Архив Юго-Западной России», «Памятники православия и русской народности в Западной России в XVII–XVIII вв.», «Русская историческая библиотека», «Volumina legum».

Прааналізаваныя крыніцы раскрываюць разнастайныя аспекты жыццядзейнасці манастыроў Турава-Пінскай епархіі ў XI–XVII стст. Праца з дакументамі па манастырскай гісторыі спалучалася з шэрагам складанасцей. Галоўныя праблемы – захаванасць і нераўнамернае размеркаванне крыніц у часе. Чым далей у старажытнасць, тым іх менш па агульнай колькасці і структурнаму складу. Таму ўзнікала неабходнасць выкарыстання больш позніх актаў, паколькі ў іх часта былі прамыя або ўскосныя даныя па ранняй гісторыі манастыроў. Асобныя моманты манастырскай жыццядзейнасці ў Турава-Пінскай епархіі дазвалялі раскрыць дакументальныя матэрыялы, якія тычыліся гісторыі манастыроў з іншых рэгіёнаў, у тым ліку з Украіны і Расіі.

[1] Гл.: Вішнеўскі А. Ф. Гісторыя дзяржавы і права Беларусі ў дакументах і матэрыялах (Са старажытных часоў да нашых дзён). Мінск, 2003; Статут Великого Княжества Литовского 1529 г. Мінск, 1960; Статут Вялікага Княства Літоўскага 1566 г. / Склад. Т. І. Доўнар, У. М. Сатолін, Я. А. Юхо. Мінск, 2003; Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. / Пер. на бел. мову А. С. Шагун. Мінск, 2005; Volumina legum. Prawa, Konstytucye y Przywileie Krolestwa Polskiego, Wielkiego Xięstwa Litewskiego y wszystkich prowincyi należących na walnych seymiech koronnych. Petersburg, 1859–1860. Vol. 2–5.

[2] Гл.: Сборник памятников по истории церковнаго права, преимущественного русского, кончая временем Петра Великаго / Сост. В.Н. Бенешевич. Петроград, 1914. Вып. 1. С. 59–77.

[3] Гл.: Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою комиссией: В 5 т. СПб., 1846. Т. 1. С. 191.

[4] Там жа. С. 189–192; Акты, относящиеся к истории Западной России… СПб., 1848. Т. 2. С. 81–83.

[5] Гл.: Акты, относящиеся к истории Западной России… СПб., 1848. Т. 3. С. 252–253; Акты, относящиеся к истории Западной России… СПб., 1851. Т. 4. С. 93–94.

[6] Гл.: Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии, православных монастырей, церквей и по разным предметом. Минск, 1848. С. 216–220, 270–275, 293–294.

[7] Гл.: Акты, издаваемые Виленской Комиссией для разбора древних актов: В 39 т. Вильна, 1908. Т. 33; Русская историческая библиотека, издаваемая Археографическою комиссиею: В 33 т. СПб., 1878. Т. 4; Русская историческая библиотека… СПб., 1880. Т. 6. Ч. 1; Acta et diplomata graeca medii aevi sacra et profana. Collecta ediderunt F. Miklosich et J. Müller. Vindobonae, MDCCCLX–MDCCCLXII. Vol. 1, 2.

[8] Гл.: Каталог славяно-русских рукописных книг XVI века, хранящихся в Российском государственном архиве древних актов / Под ред. Л.В. Мошковой. М., 2006. Вып. 1: Апостол – Кормчая.

[9] Гл.: Голубинский Е. Е. История русской церкви: В 2 т. М., 2002. Кн. 2. Т. 1. Ч. 2. С. 776–785.

[10] Гл.: Акты, издаваемые Виленскою Археографическою комиссиею. Вильна, 1880. Т. 11. С. 238; Акты, относящиеся к истории Западной России… Т. 1. С. 137; Довгялло Д. И. Пинский Лещинский монастырь в 1588 г. // Минские епархиальные ведомости. 1909. № 10. С. 251.

[11] Гл.: Жоховский, митрополит. Супрасльская типография и ее издания. Б. м., 1867. С. 11–40.

[12] Гл.: Метрыка Вялікага княства Літоўскага: Кн. 70 (1582–1585). Кн. зап. № 70 (копія канца XVI ст.) / А.А. Мяцельскі. Мінск, 2008.

[13] Гл.: Акты, издаваемые Виленскою Археографическою комиссиею…; Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленскаго учебнаго округа: В 14 т. Вильна, 1869. Т. 6. С. 67–74.

[14] Гл.: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 1311.

[15] Там жа. Л. 35.

[16] Там жа. Л. 31.

[17] Гл.: Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом Княжестве Литовском с присовокуплением грамот и привилегий на входы в пущи и на земли, составленная старостою Мстибоговским Григорием Богдановичем Воловичем в 1559 году. Вильна, 1867.

[18] Гл.: Писцовая книга бывшего Пинского староства, составленная по повелению короля Сигизмунда Августа в 1561–1566 годах Пинским и Кобринским старостою Лаврином Войною. Вильна, 1874. Ч. 1, 2; Писцовая книга Пинского и Клецкого княжеств, составленная пинским старостою Станиславом Хвальчевским в 1552–1555 г. Вильна, 1884.

[19] Гл.: Довгялло Д. И. Пинский Лещинский монастырь в 1588 г. … С. 226–253.

[20] Гл.: Lietuvos mokslų akademijos biblioteka. F 21-799. Слуцкі Памяннік. Рукапіс. 1517 г.

[21] Гл.: Повесть временных лет / Под ред. В. П. Адриановой-Перетц. СПб., 1996; Полное собрание русских летописей. М., 1962. Т. 2: Ипатьевская летопись / Воспр. текста т. II с изд. 1908 г.; Полное собрание русских летописей. М., 1965. Т. 9-10: Патриаршая или Никоновская летопись / Воспр. текста т. IX с изд. 1862 г., т. X с изд. 1885 г.; Полное собрание русских летописей. М., 1975. Т. 32: Хроники: Литовская и Жмойтская, и Быховца; летописи: Баркулабовская, Аверки и Панцырного / Сост. и ред. тома Н.Н. Улащик.

[22] Гл.: Сведкі беларускай мінуўшчыны (зборнік дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі VI–XV стст.) / Пад рэд. праф. Г.В. Штыхава. Мінск, 1996. С. 54–55.

[23] Гл.: Кніга жыцій і хаджэнняў: Пер. са старажытнарус., старабеларус. і польск. / Уклад., прадм. і камент. А. Мельнікава. Мінск, 1994. С. 63.

[24] Гл.: Киево-Печерский патерик // Древнерусские патерики. М., 1999. С. 7–80, 109–185; Киево-Печерский Патерик, или Сказания о житии и подвигах Святых Угодников Киево-Печерской Лавры / Репринт. воспр. с 3-го изд. 1903 г. Киев, 1991.

[25] Гл.: Щапов Я. Н. Княжеские уставы и церковь в Древней Руси XI–XIV вв. М., 1972. С. 271–274.

[26] Гл.: Малітвы свяціцеля Кірыла, епіскапа Тураўскага. Помнік літаратуры XII стагоддзя. Узнаўленне з выдання 1880 году / Уклад., пасляслоўе М. А. Саскевіча. Тураў – Мінск, 2001. С. 86–90.

[27] Гл.: Русская историческая библиотека… Т. 4. С. 50–155.

[28] Гл.: Архив Юго-Западной России, издаваемый Комиссиею для разбора древних актов, состоящей при Киевском, Подольском и Волынском Генерал-Губернаторе: В 8 ч. Киев, 1887. Ч. 1. Т. 7. С. 533–576; Synopsis albo krotkie spisanie praw, przywileiow, swiebod y wolnosci: od Naiaśnieyszych S. pąmięci Krolow Ich Młsci Polskich y Wielkich Xiezat Wiel. X. Lit. Y Ruskiego. Wilno, 1632.

[29] Гл.: Архив Юго-Западной России… Ч. 1. Т. 7. С. 577–649.

[30] Гл.: Mohyła P. Lithos abo kamień z procy prawdy cerkwie Swiętey prawosławney Ruskiey. Kijow, 1644.

[31] Гл.: Николай, архим. Историко-статистическое описание Минской Епархии. СПб., 1864. С. 136; Мосейчук В. История Пинского Свято-Успенского Лещинского монастыря. Сергиев Посад, 2002. С. 9.

[32] Гл.: Акты, относящиеся к истории Западной России… Т. 4. С. 66.

Паступіў у рэдакцыю 02.04.12.

*Алена Рыгораўна Дзянісава* – кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў.